

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№15(528) 21 студзеня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Торговать будем по-новому?

**Полтора года Беларусь является независимым государством, и все это время расширяются торговые взаимоотношения с близкими и дальними странами.**

В Госвнешэкономсвязи республики на днях прошли переговоры с делегациями министерства внешних экономических связей Молдовы о проекте соглашения о свободной торговле, Международной организации экономического сотрудничества и развития о проведении семинара для стран СНГ по внешней торговле. Сейчас в Минске находятся делегации министерства экономики Швейцарии, министерства финансов Турции. С ними также обсуждаются проекты соглашений о торгово-экономическом сотрудничестве и защите инвестиций.

Как скоро мы увидим швейцарские, турецкие, молдавские товары на прилавках наших государственных магазинов?

**Сергей ПОЛЕШУК.**

### Третий просит посадку

**Предположительно в конце этого месяца в Барановичах начнет действовать третий в Беларуси пункт по уничтожению боевой техники в соответствии с международными договоренностями.**

Напомним, что первые два — в Борисове и Станькове — специализируются на демонтировании бронетанковой, артиллерийской и ракетной техники. Как сообщили в Министерстве обороны Беларуси, на барановичском пункте будет уничтожаться "авиация". Кстати, под бдительным оком представителей международной инспекции.

**Алесь СИВЫЙ.**

### Может, государство обуздает СПИД?

**В ближайшее время Совет Министров республики утвердит проект программы по профилактике СПИДа в Беларуси на три года.**

Программой предусматриваются организация собственного производства лабораторных средств для диагностики ВИЧ/СПИД (до сих пор мы пользовались российскими), закупка материалов Всемирной организации здравоохранения о мерах профилактики болезни, учреждение курсов по сексологии и т.д. Будет также определен порядок оплаты труда учителей, занятых персональным обучением ВИЧ-инфицированных детей.

**Наталья КУРОПАТКИНА.**

### Кто без света, кто без воды, а кто и без крыши

**Ураган, пронесшийся над Прибалтикой, покинул свои следы и на Лидчине.**

Стихия повредила электрические высоковольтные сети. Следствием ее буйства явилась нехватка воды и тепла. На улице Хосановской с частного дома ветром сорвало крышу.

**Светла КОЗЛОВА, РИД.**

### Вкратце

**20 января в столице Беларуси открылось совещание министров иностранных дел и постоянных представителей государств—участников СНГ в рабочей группе Совета глав государств и Совета глав правительств Содружества.**

Руководители внешнеполитических ведомств и постоянные представители стран—членов СНГ утвердят окончательный проект повестки дня встречи в верхах, которая начинается в Минске завтра.

❑

**Вступает в силу декрет Кабинета министров Украины о порядке обложения налогом предметов, которые вывозятся гражданами за таможенную границу республики.**

Так, к примеру, ставка налога на телевизор — 100 долларов США, на холодильник — 140 долларов, стиральную машину — 80. Налог пересчитывается и уплачивается в национальной валюте Украины.

❑

**По сообщению командования российского Тихоокеанского военно-морского флота, позавчера ночью во Владивостоке на противолодочном корабле "Новороссийск" вспыхнул пожар, который вскоре был потушен.**

В результате инцидента никто не пострадал. По мнению специалистов, пожар был вызван дефектом в топливной системе корабля.

❑

**Вчера Израиль вновь отказался выполнять резолюцию Совета Безопасности ООН о репатриации высланных им палестинцев.**

❑

**Вчера ночью неизвестные бандиты взломали целый ряд помещений в здании в центре Варшавы, где находятся корпункты ряда ведущих зарубежных агентств и торговых представительств.**

Пострадали помещения представительства ИТАР—ТАСС, агентств Франс Пресс и АНСА, торговых фирм. Нарушены также некоторые линии связи, повреждено оборудование для передачи информации.

("Народная газета", ИТАР—ТАСС, БелаПАН, РИД.)

### Спорт-экспресс

На чемпионате Международной профессиональной баскетбольной лиги среди мужских команд минский клуб РТИ выиграл у московского "Динамо" — 94:71 (49:38)

❑

Жеребьевка, проведенная в штаб-квартире Международной федерации гандбола (ИГФ) в Базеле (Швейцария), определила соперника минского "Политехника". В 1/4 финала розыгрыша Кубка ИГФ минчанки встретятся с бухарестским "Рапидом", который давно и прочно удерживает за собой репутацию одного из сильнейших в Европе.

("Народная газета", Белинформ).

### Спасибо родному Совмину за наше счастливое детство

**Газета "Заря" опубликовала данные стоимости путевок в некогда скромные и доступные профсоюзные санатории Брестчины.**

Ныне отдых в санатории "Берестье" стоит от 31.800 до 36.660 рублей, в "Алесе" — 29.600, в "Буге" — 15.980 рублей. Полная стоимость путевки в пионерский лагерь "Зубренок" — 17.000 рублей, но из них почти 16.000 компенсирует родителям Совмин.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**



*Што нас чакае?*

## Беларусь для "зайцаў" — запаведнік

**Растучыя, быццам грыбы пасля дажджу, цэны ўздзейнічаюць і на палітыку беларускіх банкіраў. Як паведамілі ўчора карэспандэнту Белінфарма, з 1 лютага Нацыянальны банк рэспублікі ўводзіць новы парадак вывазу наяўных рублёў і разліковых білетаў беларускага Нацыянальнага банка, а таксама плацежных дакументаў, выражаных у рублях, за межы мытнай тэрыторыі Беларусі.**

З гэтага моманту жыхары Беларусі, якія часова выязджаюць у дзяржавы, дзе рубель выкарыстоўваецца ў якасці законнага плацежнага сродку, могуць вывезці неабмежаваную колькасць расійскіх рублёў, а беларускіх "зайчыкаў" — у суме да трохразовай мінімальнай заработнай платы, устаноўленай у рэспубліцы. Праўда, "зайчыкі" павінны вярнуцца на радзіму ў той жа колькасці, у якой "выязджалі".

Што датычыць іншых краін, скажам, той жа Польшчы, то з 1 лютага з сабой можна будзе правезці расійскіх рублёў, плацежных дакументаў у рублях і разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі на агульную суму, якая не перавышае трохразовую мінімальную заработную плату. Ваяжоры па-ранейшаму не маюць права расходаваць або мяняць вывозімыя грошы.

Павелічэнне размераў кашалькоў для аматараў замежных турнэ абумоўлена яе вялікасцю інфляцыяй. Пакідаючы рэспубліку, турысты і ўсе іншыя павінны быць упэўнены, што змогуць дабрацца дамоў незалежна ад чарговага цэнавага скачка.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Праект аб зямлі адкладзены. Канстытуцыя нараджаецца ў пакутах

**Мікалай ГАЛКО**

Цяпер можна смела сказаць, што прыватызацыя на Беларусі будзе весціся і весціся па закону. У аўторак вечарам яго прынялі цалкам, што можна назваць удалым выйсцем са складанага становішча. Хаця сакратар Камісіі па эканамічнай рэформе, народны дэпутат Віктар Аламліеў, як адзін з самых актыўных распрацоўшчыкаў законапраекта, незадаволены вынікам, асабліва тым, што дэпутаты "вышчыпалі" артыкулы аб прыватызацыі зямлі, аб зямельнай квоце — і гэта значна аслабіла Закон.

Але ж зямля — аснова нашай існасці, і ўсё, што датычыцца яе, немагчыма вырашыць ні шматдзённымі дэбатамі, ні ўзмахамі шабель. Учарашні дзень (самая лепшая яго частка — раніца) быў прысвечаны зноў зямельным праблемам. Калі вастрыня пытання — быць ці не быць прыватнай уласнасці на зямлю? — увогуле прытупілася, бо Вярхоўны Савет яшчэ ў мінулым годзе дэклараваў такую магчымасць, то ўзніклі ці, хутчэй за ўсё, не зніклі іншыя, не менш калючыя рознагалоссі.

Доўгі час, напрыклад, вядуцца слоўныя баталіі наконт таго, ці мае права на існаванне такое паняцце, як калектыўная ўласнасць. Адны лічаць, што тым, хто вынайшаў гэты юрыдычны нонсенс, патрэбна ўручыць Нобелеўскую прэмію як за самую велізарную недарэчнасць. Другія бачаць у гэтым прававы фундамент для росквіту калгасаў. Калі выдзяляць зямлю ў прыватнае карыстанне, то каму? Дачніку — дзесяць сотак? Вяскоўцу — гектар? Ці аднаасобніку-фермеру — сто гектараў?

Пытанняў хоць і няшмат, але кожнае з іх вельмі складанае. Таму страсці вакол законапраекта аб прыватнай уласнасці на зямлю літаральна закіпелі. Пачалося з таго, што першым слова для даклада ўзяў намеснік Старшыні Савета Міністраў Аляксандр Бокач (звычайна ж першым пры разглядзе законапраектаў выступае старшыня парламенцкай камісіі). Справа ў тым, што два дні назад адбылася сенсацыя парламенцкага маштабу, якая, па выразу дэпутатаў, ашаламіла членаў аграрнай камісіі.

Савет Міністраў прапанаваў новую зямельную канцэпцыю, па якой прадугледжваюцца толькі два віды ўласнасці, — дзяржаўная і прыватная. Калектыўная, за якую б'юцца-змагаюцца дэпутаты-аграрнікі, такім чынам, выкрэсліваецца. Далей урадавая канцэпцыя надзяляе ўсіх дачнікаў, садаводаў, домаўладальнікаў, сялян правам валодання прысядзібным участкам, соткамі ў таварыстве і г.д. Прычым юрыдычнае афармленне па прапанове ўрада магло быць праведзена бясплатна альбо за сімвалічную плату.

Старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Уладзімір Гаркун паведаміў, што зямельныя навіны ад урада членамі камісіі былі ўспрыняты негатыўна. Паколькі ўрадавая канцэпцыя з'явілася нечакана, то Гаркун папрасіў адкласці разгляд законапраекта, а пакуль што прыняць пастанову, якая б улічвала асаблівасці бягучага моманту, напрыклад, забараняла б рэарганізацыю калгасаў да прыняцця Закона.

І тут пачаўся той славуты слоўны тлум, якім, відаць, вызначаецца любы парламент. Неабходнасць падзяліцца сваімі думкамі, жаданне знайсці рацыянальнае зерне вымагае шмат энергіі. Хто патрабаваў правесці галасаванне за прыватную ўласнасць як за канстытуцыйную норму (для чаго патрэбны дзве трэці дэпутацкіх галасоў), хто заклікаў жыць так, як жылі, хто абвінавачваў урад, хто аграрную камісію...

Народны дэпутат з Бярозаўскага раёна Яўген Шымчук выказаў такі погляд на падзеі дня: урадавая канцэпцыя нарадзілася таму, што верх бяруць аматары апаратных гульняў. У чыноўнікаў зараз няма фондаў на тэхніку, на кармы, таму ім патрэбен новы інструмент для ўлады — зямля, вось яны і хочуць забраць яе ў калгаснікаў, каб размяркоўваць. Дэпутат з Баранавіцкага раёна Мікалай Якубец таксама выкрываў ворагаў, па яго словах, "бульварных аграрных рэфарматараў", што задумалі чорную справу, — разгон калгасаў. І заверыў, што беларускія калгасы і саўгасы працуюць аднолькава з фермерамі штата Мінесота (ЗША). Кожны выбіраў такі аргумент, які яму больш спадабаўся. Праўда, гледзячы збоку, бачыш, што многія аргументы не вытрымліваюць сур'ёзнай крытыкі.

Падводзячы вынік, можна сказаць, што вырашэнне зямельнай праблемы зацягваецца.

Сутыкненне двух альтэрнатыўных праектаў вызначыла гарачую атмасферу ў зале і пры абмеркаванні наступнага пытання — "Аб праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь". Калі Васіль Шаладонаў, вядомая палітычная фігура ў распрацоўцы праекта Асноўнага Закона краіны, то з'яўленне на трыбуне дэпутата Франца Мінько са Стаўбцоўскага раёна з новым альтэрнатыўным праектам Канстытуцыі — з'ява сенсацыйная.

Рабочая група пад кіраўніцтвам Васіля Шаладонава правяла вельмі вялікую работу. Рыхтаваліся некалькі варыянтаў, улічваліся прапановы дэпутатаў, грамадзян. Гэта не магло пазбавіць праект крытыкі. Асабліва моцна ў апошні час загучалі патрабаванні ад прыхільнікаў сацыялістычных святынь.

І вось крытыка ад мікрафонаў скончылася — дэпутацкае аб'яднанне "Беларусь" прадставіла свой варыянт Канстытуцыі. Шкада, але Франц Мінько змог толькі прачытаць напісаную прамову, растлумачыць усе нюансы праекта, адказаць на пытанні яму, на мой погляд, яўна не ўдалося. У гэтым сэнсе аб'яднанне "Беларусь", я думаю, зрабіла пралік, калі гэта не малазразумелы тактычны ход. Пачаліся спрэчкі, сэнс якіх добра вядомы: быць ці не быць прэзідэнту, уносіць альбо не пункты аб правах на бясплатную адукацыю, медыцынскую дапамогу, аб тым — праводзіць ці не праводзіць рэферэндум.

Канешне, у дзейнасці Канстытуцыйнай камісіі ёсць непаразуменні. Чаму, скажам, аб'яднанне "Беларусь" піша свой варыянт праекта, калі Канстытуцыйная камісія на дзве трэці складаецца з членаў фракцыі "Беларусь"? Выходзіць, што большасць дэпутатаў самаўхіляецца ад святога абавязку — падрыхтоўкі Канстытуцыі — і давяраюцца лідэрам пэўных палітычных рухаў.

Да абедзеннага перапынку на сесіі было праведзена пробнае галасаванне. Яно выявіла, напрыклад, што толькі 108 дэпутатаў хацелі б бачыць Вярхоўны Савет прафесійным, ідэю парламенцкай рэспублікі без прэзідэнта падтрымліваюць 149 чалавек, а вось бясплатная адукацыя, ахова здароўя — ідэал 179 дэпутатаў. Паўтараю, гэта было толькі пробнае галасаванне. Наперадзе вельмі цяжкія дыскусіі, дарэчы, яны працягваліся ўчора і ў другой палове дня.

*Чацвёрты з'езд беларускіх фермераў*

## Гэтыя людзі многага хочуць, бо многае могуць...

**Павел СТАСЕВІЧ**

**Як ні складана сёння жывецца "кулакам" рэспублікі, гэты форум яны пачалі з песень і танцаў — самадзейныя артысты Палаца культуры Беларускага аўтамабільнага завода добра-такі залагодзілі сэрцы прысутных.**

**Зала, як кажуць, была поўная, сярод гасцей з'езда — многія афіцыйныя асобы, вучоныя, палітыкі і нават святары.**

Старшыня Сялянскага саюза Канстанцін Ярмоленка перадаў фермерам пажаданні плённай работы ад імя Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча.

А вось пра тое, аб чым будуць весці гаворку на з'ездзе, можна было здагадацца, шчыра кажучы, і загадзя — асабліва калі за працэсам сочыш пастаянна па абавязку службы.

Так што асабіста мяне больш цікавіў, як бы так мовіць, сацыяльны партрэт гэтага племя "младого, незнакомого".

І партрэт, трэба сказаць, уражвае больш, чым усякія лічбы. У чалавечым плане дыстанцыя ад першага да чацвёртага з'езда фермерамі пройдзена значная. Амаль няма ўжо ў зале затурканых людзей, на якіх махаў кулаком кожны партыйны бонза — за тое, што адважыліся паляцець да сонца свабоды. Зараз у сталіцы сабраліся людзі мажныя, упэўненыя ў сабе, якія жывуць сваім розумам, — не галота, словам.

А вось наконт праблем — то тут змен да лепшага мала. Усё амаль як і раней: зямля бярэцца з вялікім скрыпам, заканадаўчая база за часам не паспявае, з грашыма — нявыкрутка.

Асноўны даклад К.Ярмоленкі з гэтай нагоды быў лаканічны, грунтоўны і даволі трывожны. Галоўнай праблемай зараз стала грашова-крэдытная: сродкаў на больш-менш прыстойнае абсталяванне сялянскіх гаспадарак катастрафічна не хапае, а дзесяткі тысяч рублёў з фонду падтрымкі "кулакоў" распыляюцца дзяржаўнымі чыноўнікамі "па дарозе" да "вольнага земляроба".

Будучыня таксама, як кажуць, свеціць слабавата — нават тыя 2 мільярды рублёў, што даюцца з бюджэту на гэты год, відаць, хутка з'есць інфляцыя, бо цэны ж на многае ўзраслі ў сотні разоў.

Слушных выступленняў было шмат: гаварылі людзі-ўласнікі, а яны капейку лічыць умеюць. Думаецца, што да іх галасоў трэба ўважлівей прыслухоўвацца — і тады здымецца частка тых момантаў сацыяльнага напружання, якія назіраюцца ў ходзе зямельнай рэформы.

Народны дэпутат, гаварылі фермеры, — рэдкі пакуль што госць на іх двары, і таму многае бачыцца ў скажоным выглядзе. "Мы будзем карміць народ разам з калгасамі і саўгасамі, мы не эксплуатататары, а працаўнікі — вось галоўны лейтматыў многіх выступленняў. — Мы хочам працаваць у міры і згодзе".

На жаль, згоды не заўсёды хапае, і таму ў мінулым годзе над пяццю фермерскімі гаспадаркамі ўзнімаўся "чырвоны певень" — завідушчых вачэй многа. Расказвалася і пра рэкеціраў, і пра міліцыю, якая фермера пакуль што не беражэ. Таму яны гатовы абараняцца самі, далі б стрэльбы. На жаль, гэтае пытанне стаіць даўно і з месца не рушыцца.

Было, словам, на з'ездзе многа карыснага, а пункт парадку дня "球Рознае", як і парламенцкі, прайшоў эмацыянальна. У канцы дня многія беларускія фермеры вырашылі правесці сяброўскую вячэру — ды не хаваючыся па завуголлях, а ў адным з лепшых рэстаранаў сталіцы. Асабіста мяне гэта радуе — не "шпана" гуляе, рэй вядуць хлопцы з мазалямі на руках...

*Кто есть кто*

## В Молодечно без перемен. Сенсации не получилось

**Алексей ЗЕЛЕНКЕВИЧ**

По обилию корреспондентов республиканских газет и высоких должностных лиц из Минска, прошедшую во вторник сессию Молодечненского горсовета можно смело назвать беспрецедентной. Что же привлекло заинтересованных наблюдателей в зал заседаний?

Ожидание сенсации!

В последнее время депутатский корпус Молодечненского горсовета был весьма наэлектризован целым рядом заявлений зампреда горсовета Н.Кудина. Составленные в ультимативной форме, эти заявления "сигнализировали" коллегам о недостатках и злоупотреблениях руководителей городской администрации, ставили их "в известность" об отсутствии согласованной работы горисполкома, содержали требования о необходимости срочных организационных мер.

Поскольку под "руководством" городского исполкома совершенно определенно имелись в виду народные депутаты республики Г.Карпенко и В.Гончар, люди хорошо известные своими демократическими устремлениями, то вполне понятно, что скандал, затеянный Н.Кудиным, довольно быстро приобрел серьезный масштаб. К сожалению, сегодня многие влиятельные силы в республике заинтересованы в фиаско деятелей демократического толка, вот поэтому на финальный аккорд, сессию горсовета, как любопытные мотыльки на огонь, слетелись и журналисты, и всевозможные эксперты.

Сенсации, однако, не получилось.

Грозные по форме, но не подкрепленные никакими доказательствами "обвинения" и "разоблачения" Н.Кудина оказались мыльным пузырем. Выступившие депутаты — руководитель координационной рады демократических сил города директор завода ЖБИ Н.Ивашкевич, работник завода "Электромодуль" А.Буславский, директор СП А.Миронов, военнослужащий В.Костко и другие не только поддержали курс, который держит руководство горисполкома, но и выразили от имени своих избирателей полную поддержку Г.Карпенко. В итоге голосования Н.Кудину было выражено недоверие и, надо полагать, что это стало ответом на вопрос: кто по существу прав?

Но все это лишь внешняя канва, видимая часть айсберга. Пламя скандала, которое энергично раздувал Н.Кудин, показывает, что сегодня наступает новый и весьма сложный этап в жизни и деятельности Советов, в которые избраны люди демократической ориентации. Характерно, что инициаторами всевозможных склок, имеющих цель дискредитировать конструктивных демократов, чаще всего выступают люди, использовавшие в своей предвыборной кампании популистские и конъюнктурные лозунги. Пример с Н.Кудиным как нельзя лучше подтверждает эту тенденцию. В свое время этот офицер ныне упраздненного 5-го управления КГБ (политический сыск), вступив в борьбу за депутатский мандат, вел свою кампанию под такими радикальными лозунгами, что многие избиратели целиком доверились ему, надеясь приобрести подлинного защитника своих интересов. Под гипноз красивых слов попали и некоторые члены молодечненского "Демклуба". Так Кудин стал депутатом, а затем и заместителем председателя горсовета. Но практическая деятельность, как известно, требует не только высоких слов, но и компетентности, умения работать в нынешней сложной обстановке. Всего этого многим вчерашним "борцам" сегодня недостает. Не оказалось в арсенале Кудина и необходимых для серьезного администратора качеств. Вот тогда в ход пошло испытанное оружие наветов, пригодились навыки, полученные на прежней службе. Горисполком стал сотрясаться от "толчков", инициированных Кудиным. Любопытно, что в своей "борьбе" вчерашний пламенный демократ обратился за помощью к "партократам", которых он вроде бы так старательно сторонился еще два года назад. Словом, крайности сомкнулись...

Пока подобная линия на интриги, на фальсификацию, на блокирование со вчерашними политическими соперниками была в Молодечно сорвана. Это свидетельствует об ответственности и серьезности основной части депутатского корпуса, верности подлинно демократическим принципам. Но как будут развиваться события в других городах — покажет ближайшее время. Кстати, "коммунистическая" фракция Молодечненского горсовета хранила на этой сессии нейтралитет, с удовольствием наблюдая развитие конфликта.

Народная газета

*Беларусь—Польша*

## Как живете, соседи?

**Как улучшить сотрудничество между двумя странами? Об этом шел разговор на совместном заседании активистов общества "Беларусь—Польша" и Союза поляков Беларуси.**

Общественные организации беспокоит отсутствие объективной информации о жизни соседних государств. На Беларусь транслируются три телепрограммы из России, но нет ни одной из Киева, Варшавы, Вильнюса. Это ненормальное явление. К нам нередко поступает однобокая тенденциозная информация. По некоторым назревшим вопросам решено обратиться в Верховный Совет и Совет Министров Беларуси.

Иван ПЕТРОВ.

*Репортер узнал*

## Нам не страшен "бешеный" курс

**По данным, полученным корреспондентом БелаПАН в Национальном банке Беларуси, за первые две недели 1993 года на рынке безналичной валюты республики продано 1.819.732 доллара США и 546.300 марок ФРГ. Средний курс за этот период составил 542 рубля за 1 доллар США и 323 рубля за 1 марку ФРГ.**

Николай Лузгин, начальник валютно-экономического управления Нацбанка Беларуси, подчеркнул: "Объем купли-продажи иностранной валюты постоянно возрастает.

Светлана КУЛИКОВА.

## И дома, и за границей

**Чем-то похожим на Берлин, каким он был до воссоединения Германии, оказался поселок Лынтупы Поставского района.**

Но для того, чтобы попасть в западную, иностранную часть города, не надо рисковать жизнью, преодолевая охраняемую стену. Заходи на вокзал — и ты уже в Литве, к которой со времен СССР все еще относятся Лынтупская железнодорожная станция и соответствующий участок железной дороги. Вроде мелочь, а приятно. Особенно для контрабандистов. Безлицензионный груз, адресованный на эту станцию, автоматически попадает за границу.

Сергей ПРЖЕВАЛЬСКИЙ.

## Игра в перекидного. Кто в дураках?

**Ограбленными средь бела дня могут считать себя покупатели Орши, которых за минувший год обсчитали как минимум на два миллиона рублей.**

На такую сумму выявлены завышения цен на 24 предприятиях торговли, общепита, бытового обслуживания. Причем необоснованно накручивали цены как государственные, так и коммерческие структуры.

А чаще всего — вместе, перекидывая товар друг другу и прибавляя каждый раз к стоимости свои проценты.

Ольга СИДОРОВИЧ, РИД.

## Романс — брокеру, бухгалтерам — частушки...

**Белорусских предпринимателей, похоже, сегодня волнует не только состояние собственного бизнеса.**

По сведениям БелаПАН, в Союзе предпринимателей прорабатывается идея проведения в этом году конкурса на лучшее музыкальное произведение, посвященное деловым людям.

Как выразился президент Союза предпринимателей Владимир Карягин, "представители малого бизнеса достойны не только песен, но и серьезной музыки".

Ирина ЛЕВШИНА.

## Да будет соль!

**В Гомеле, похоже, трудности с солью.**

Очевидно, так надо оценивать ситуацию, исходя из того, что облисполком обратился в Совмин за помощью.

Правительство пошло на вскрытие государственного резерва. Разбронировано 336 тонн соли, хранящейся на предприятиях потребительской кооперации области.

Максим ГРУЗД.

## Бледна "Смирновская" перед крупником

**Кафе полоцкого художественного салона "Рыса" — единственное, пожалуй, место в республике, где можно посидеть за шкаликом истинного белорусского крупника.**

Это крепкое зелье на многочисленных целебных приправах, изобретенное нашими предками в языческие времена, готовится по рецептуре молодого бармена Василия Храмцова. Многие гости Полоцка уже успели по достоинству оценить напиток, неповторимый, как и место, где он подается, — древние стены бывшей братской школы — одной из жемчужин местного историко-культурного заповедника.

## Если не муж, то кто же?

**Только наутро догадалась крепко подвыпившая накануне жительница Витебска, что законное место мужа в ее постели изрядную часть ночи занимал другой человек.**

Каким образом 15-летний "гость" попал в квартиру, хозяйка не запомнила, но все-таки вызвала милицию и заявила об изнасиловании.

Сергей СЕРГЕЕВ.

*У каго ўлада?*

# Пра цуда-палацы і жахлівыя баракі,

## або Як барысаўскія "дваране-рэвалюцыянеры" адрэагавалі на зварот Старшыні Вярхоўнага Савета

Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ

**Чытачы "Народнай газеты", напэўна, памятаюць адкрыты ліст Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча да дэпутатаў Барысаўскага гарсавета, а таксама рэпартаж нашага карэспандэнта аб паездцы спікера парламента ў Барысаўскі раён. І ў першым, і ў другім выпадку гаварылася аб шэрагу ненармальных з'яў, якія існуюць у Барысаве і абураюць яго жыхароў: аб цяжкім становішчы людзей, якія жывуць да гэтага часу ў жахлівых бараках, аб непрыстойных адносінах некаторых кіруючых асоб выканаўчай улады да іх; аб парушэннях законнасці пры размеркаванні дзяржаўных кватэр, выдзяленні ўчасткаў для будаўніцтва катэджаў кіраўнікам розных узроўняў, якія і так маюць добрыя жыллёвыя ўмовы, і г.д. У сваім звароце да дэпутатаў Барысаўскага гарсавета Старшыня Вярхоўнага Савета гаварыў, што "недапушчальна, каб праз 47 гадоў пасля заканчэння вайны людзі жылі горш, чым пасля ваеннага разбурэння", што народныя абраннікі павінны "самым прынцыповым чынам разабрацца з сітуацыяй, даць ацэнку дзеянням кіраўнікоў любога ўзроўню".**

**Як адрэагавалі дэпутаты на зварот Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі?**

У снежні прайшла сесія гарадскога Савета народных дэпутатаў Барысава, на якой разглядаўся і гэты зварот. Як ён быў ацэнены на сесіі? Вось магнітафонная стужка з запісам выступлення старшыні гарсавета С.Шыдлоўскага:

— На мой погляд, гэта папулісцкі зварот, у якім мноства палітычных ацэнак і ніводнага сур'ёзнага аргумента... Яшчэ больш здзіўляе наступны абзац:"Я звяртаюся да вас, народных выбраннікаў, самым прынцыповым чынам разабрацца з сітуацыяй, даць ацэнку дзеянням кіраўнікоў любога ўзроўню". Што ж гэта за "кіраўнікі любога ўзроўню"? Калі тут маецца на ўвазе кіраўніцтва Барысаўскага гарвыканкама, то чаму аб гэтым не гаворыцца прама? Я расцэньваю гэтыя словы як закамуфліраваны заклік да перавароту ў горадзе, як умяшанне ва ўнутраныя справы гарсавета. А даверны тон у словах "наша заканадаўства дае вялікія правы мясцовым уладам наводзіць парадак" як быццам заахвочвае дэпутатаў да ажыццяўлення перавароту і абяцае ім заканадаўчую падтрымку.

З усяго гэтага напрошваецца адзін вывад: мэта візіту Шушкевіча ў Барысаў была не дапамагчы гораду выйсці са складанай эканамічнай сітуацыі, а набраць уласны палітычны капітал, падыграць народу, прынёсшы ў ахвяру мясцовую ўладу.

Падобныя выступленні былі і ў іншых дэпутатаў. Але вось што дзіўна: праз некаторы час прыходзіць у Вярхоўны Савет пратакол сесіі Барысаўскага гарсавета, а ў ім — усё добра, лагодна, а слоў старшыні гарсавета, выдзеленых намі, як і многіх іншых дэпутатаў-прамоўцаў, наогул няма! Быццам яны нічога і не гаварылі. Дык што ж гэта за пазіцыя такая — выступіць, абвінаваўшы амаль у крымінальным злачынстве — яшчэ б — заклік да перавароту! — Старшыню Вярхоўнага Савета рэспублікі можна, а занатаваць у дакумент свае словы боязна?

Усе дэпутаты гарсавета маглі выказацца на сесіі. Але я, прачытаўшы ў пратаколе запіс іх выступленняў, не знайшоў адказаў на многія пытанні, якія падымаліся і Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі, і жыхарамі Барысава. Таму папрасіў пракаменціраваць гэтую сітуацыю, адказаць на пытанні саветніка Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Івана Сцяпуру, які па даручэнню Станіслава Шушкевіча прымаў удзел у рабоце сесіі гарсавета.

— Іван Іосіфавіч, як вамі ўспрымалася ўсё тое, што адбывалася на сесіі?

—Ведаеце, я вельмі здзівіўся пазіцыі старшыні гарсавета і асобных дэпутатаў у адносінах да звароту Старшыні Вярхоўнага Савета. Шчыра кажучы, няёмка было чуць прамову дакладчыка, у якой ён абвінавачваў кіраўніка дзяржавы ва ўмяшанні "ва ўнутраныя справы гарсавета". Можна было падумаць, што гаворка ідзе паміж Багдадам і ААН. Але да каго, скажыце, павінен быў звярнуцца кіраўнік дзяржавы, які атрымаў скаргі ад жыхароў горада, калі не да мясцовай улады, не да дэпутатаў? Мне здаецца, і я аб гэтым сказаў дэпутатам у сваім выступленні на сесіі, С.Шушкевіч выбраў добры, цывілізаваны шлях. Ён звярнуўся да тых праблем Барысава, што ўзнімаліся гараджанамі пры сустрэчах. Адна з іх гучала вельмі часта: ёсць несправядлівасць у размеркаванні жылля і прадастаўленні будаўніцтва тым людзям, якія, на іх думку, не маюць на гэта права, бо ўжо няблага забяспечаны. Больш таго, ігнаруюць маральныя прынцыпы, а дзе-нідзе і законнасць.

Адпаведнымі органамі выбарачна праводзілася праверка тых фактаў, аб якіх гаварылі гараджане і пісалі ў Вярхоўны Савет. І многае з праверанага пацвярджаецца. І мяне вельмі ўразіла, што аб гэтым галоўным пытанні — "самым прынцыповым чынам разабрацца з сітуацыяй, даць ацэнку дзеянням кіраўнікоў любога ўзроўню", — якое фактычна і ставіў Старшыня Вярхоўнага Савета, я не пачуў ані слова ні ў дакладзе, ні ў выступленнях. А людзі, як і раней, чакаюць адказу на пытанні, ад якіх залежыць іх прыстойнае жыццё.

— Дарэчы, а не маглі б вы назваць факты, якія пацвердзіліся ў ходзе праверкі?

— Чаму ж, калі ласка. Вось дакумент, падпісаны міністрам унутраных спраў Рэспублікі Беларусь У.Ягоравым:

"Міністэрствам унутраных спраў сумесна з Галоўным кантрольна-рэвізійным упраўленнем Міністэрства фінансаў ажыццёўлена праверка законнасці індывідуальнага будаўніцтва асобнымі службовымі асобамі, якія пражываюць і працуюць у г.Барысаве. Праведзены выбарачныя кантрольныя абмеры будуемых індывідуальных катэджаў, дакументальная зверка набытых будаўнічых матэрыялаў, праверана законнасць выкарыстання машын і механізмаў.

У ходзе разбору было ўстаноўлена, што, нягледзячы на наяўнасць у Барысаўскім гарвыканкаме агульнай чаргі на атрыманне зямельных участкаў (на дадзены перыяд больш як 300 заяў) пад будаўніцтва індывідуальных домазабудаванняў, асобным грамадзянам яны выдзяляліся без чаргі і ў больш прэстыжных месцах. Прычым большасць з іх займаюць кіруючыя пасады на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях горада і раёна.

Так, маючы дабраўпарадкаваныя кватэры, будуюць катэджы галоўны архітэктар раёна С.Самцэвіч, механік домабудаўнічага камбіната М.Хацкевіч, намеснік галоўнага інжынера завода "Гідраўзмацняльнік" Я.Карашкоў, старшыня кааператыва "Чарцёжнік" В.Казлоў, кіраўнік і галоўны інжынер будтрэста N 21 А.Кавалёў і І.Місюк, начальнік БУ-17 В.Дзямідчык, намеснік старшыні па будаўніцтву РВА "Сельгасхімія" В.Макавецкі і іншыя. Прычым кіраўнік будтрэста N 21 А.Кавалёў пражывае ў 4-пакаёвай кватэры плошчай 51,18 м², дзе прапісаны два чалавекі.

У працэсе праведзенай праверкі выяўлены факты парушэнняў і злоўжыванняў.

Так, дырэктар Барысаўскага домабудаўнічага камбіната М.Дуброўскі пры набыцці па месцы работы будматэрыялаў на пабудову індывідуальнага катэджа недаплаціў у касу прадпрыемства 10465 рублёў. У тым ліку у лютым 1992 года яму было адпушчана 4380 шт. цаглін на суму 6760 рублёў, фактычна аплачана 1100 рублёў, запазычанасць у суме 5669 рублёў неабгрунтавана з М.Дуброўскага перанесена на грамадзяніна Г.Рыбачонка. Акрамя таго, дырэктар ДБК пры выкарыстанні аўтатранспарту для дастаўкі матэрыялаў да месца забудовы не аплаціў афіцыйна звязаныя з гэтым расходы.

Шэраг парушэнняў быў дапушчаны пры пабудове індывідуальных домазабудаванняў дырэктару гандлёвага цэнтра малога прадпрыемства "Інфарм" В.Паўлаўцу і яго намесніку А.Горыну. Частку работ для іх выконвала Барысаўскае спецыялізаванае мантажна-будаўнічае ўпраўленне N 2 (СПРБУ-2). У прыватнасці, указанымі асобамі была праведзена аплата мантажу пліт перакрыцця ў снежні 1991 года, хаця фактычна работы вяліся ў 1992 годзе і пліты спісаны прарабам СПРБУ-2 А.Дзерваедам толькі ў кастрычніку бягучага года. У выніку гэтага, з улікам новых расцэнак, з заказчыка недаспагнана 81 тысяча рублёў. Акрамя таго, прарабам А.Дзерваедам ажыццёўлены прыпіскі па ўстаноўцы сантэхнічнага абсталявання на дадзеным аб'екце, у выніку чаго рабочым неабгрунтавана налічана заработная плата, а таксама незаконна, без афармлення пуцявых лістоў, спісана на бульдозер, які выкарыстоўваўся пры будаўніцтве аб'екта, 220 літраў дызельнага паліва і 20 літраў бензіну на суму 1464 рублі".

І такіх фактаў мноства.

**— На сесіі гарсавета разам са зваротам Старшыні Вярхоўнага Савета разглядаўся адкрыты ліст дэпутатаў Камісіі па справах моладзі да старшыні гарадскога Савета народных дэпутатаў С.Шыдлоўскага. Адным з пытанняў было выкарыстанне ім службовага становішча пры выдзяленні кватэры свайму родзічу. Там прама было сказана:"Ваш зяць, якому няма яшчэ і 30 гадоў, адпрацаваўшы два гады ў міліцыі, "нечакана" атрымаў двухпакаёвую кватэру, пражываючы ў кааператыўнай, і пасля гэтага зволніўся з ГАУС. Але ж гэта кватэра была прызначана старшаму лейтэнанту Іванову, які служыць 9 гадоў, а жыве з сям'ёй у інтэрнаце. Многія вопытныя афіцэры з вялікім стажам, падарваўшы здароўе ў барацьбе са злачынцамі, жывуць у інтэрнаце, звыш 100 супрацоўнікаў чакаюць паляпшэння жыллёвых умоў, затое ваша дачка будзе жыць у цёплым гняздзечку". Гэта пытанне неяк абмяркоўвалася на сесіі?**

— Па-першае, гэты факт, як і іншыя, таксама гучаў падчас знаходжання Старшыні Вярхоўнага Савета ў Барысаве з вуснаў жыхароў, а не толькі ад групы дэпутатаў, гучаў ён у друку і на сесіі.

Па-другое. На сесіі гарсавета давала тлумачэнні камісія, якая была створана для разгляду звароту групы дэпутатаў і вывучэння тых фактаў, пра якія там гаварылася, у тым ліку і пра кватэру для зяця С.Шыдлоўскага. Але тлумачэнні гэтыя былі вельмі дзіўнымі. Калі пераказаць коратка, то кватэру гэту выдзеліў начальнік гарадскога аддзела міліцыі, а гарвыканкам пагадзіўся і толькі.

**— Дык што, перад намі зноў знаёмы почырк нядаўніх часоў, у Барысаве нічога не мяняецца для кіруючых асоб?**

— Так, цяжка сёння яшчэ знайсці праўду, дамагчыся адказнасці перад законам усіх, незалежна ад пасады і становішча. Для мяне гэта зразумела. Дзесяцігоддзямі ў нас для асобных людзей не існавала законаў. Больш таго, тыя, хто павінен быў стаяць на ахове гэтых законаў, рабілі ўсё магчымае, каб адвесці ад адказнасці за злоўжыванні, парушэнні законаў гэтых асоб. Не дзіўна, кіраўнікі праваахоўных органаў, судоў, як памятаеце, прызначаліся спярша партыйнымі камітэтамі, а затым рабілася бутафорыя з удзелам як быццам бы народа ў іх прызначэнні. Многія з іх і сёння верна служаць сваім гаспадарам, а не закону.

Але ведаеце, усё ж час свае бярэ. Бачыце, ужо на сесіі прыходзіцца абмяркоўваць такія пытанні. І старшыні гарсавета трэба нешта гаварыць, і пракурор дае тлумачэнні.

Я ўпэўнены, прыйдзе той час, калі ўсе тыя, хто сёння ігнаруе законы, зневажае чалавечую годнасць, усё роўна адкажуць перад законам.

**— Іван Іосіфавіч, хацелася б удакладніць яшчэ адну пазіцыю са звароту народных дэпутатаў да С.Шыдлоўскага:"... сесія гарсавета прагаласавала за продаж магазіна N 4 з аўкцыёна, а намеснік старшыні выканкама С.Трусаў прыняў рашэнне перадаць гэты магазін у арэнду. Вам выдатна вядома, што рашэнне сесіі ніхто не можа адмяніць, акрамя саміх дэпутатаў. Вы прамаўчалі, адобрыўшы тым самым самавольства свайго намесніка". Як гэты факт ацанілі дэпутаты?**

— Усім у Барысаве вядома, што адбываецца з гэтым магазінам і іншымі аб'ектамі, здадзенымі ў арэнду, але камісія гарсавета не назвала рэчы сваімі імёнамі, не звярнула сур'ёзную ўвагу нават на рашэнне Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, які ў лістападзе 1992 года разглядзеў пытанне раздзяржаўлення і прыватызацыі камунальнай уласнасці ў Барысаве.

Дарэчы, можа, і ў гэтым выпадку С.Шыдлоўскі палічыць рашэнне Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь умяшаннем ва ўнутраныя справы гарсавета і наогул разарве адносіны з Мінскам, а дакладней, з вышэйшым кантрольным органам Вярхоўнага Савета? Але жарты ўбок. Гэты дзіўны дакумент дастойны цытавання.

Рашэннем было адзначана, што старшыня гарсавета С.Шыдлоўскі і намеснік старшыні гарвыканкама Г.Кучук у парушэнне патрабаванняў Закона "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь" і Закона Рэспублікі Беларусь "Аб арэндзе" без згоды ўласніка (гарадскога Савета народных дэпутатаў) 18 лютага 1992 года перадалі ў арэнду гандлёва-вытворчаму аб'яднанню "Веста" маёмасць Барысаўскага гарпрамгандлю на 1,7 млн. рублёў. Адначасова бязвыплатна перададзены шэраг аб'ектаў гандлю на суму 3,2 млн. рублёў, у выніку чаго дзяржаве нанесены вялікі матэрыяльны ўрон.

Як і належыць, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь сваім рашэннем патрабавала:

1) адмяніць акты гарвыканкама, прынятыя з парушэннямі патрабаванняў дзеючага заканадаўства, звязаныя з заключэннем дагавору арэнды і бязвыплатнай перадачай камунальнай маёмасці ва ўласнасць ГВА "Веста";

2) за нанясенне дзяржаве ўрону ў выніку парушэння заканадаўства, якое рэгулюе адносіны ўласнасці, зрабіць на старшыню Барысаўскага гарвыканкама С.Шыдлоўскага грашовы налік у размеры месячнага службовага акладу (6460 руб.);

3) за матэрыяльныя страты, нанесеныя дзяржаве ў выніку безадказных адносін да выканання сваіх службовых абавязкаў пры здачы ў арэнду і перадачы камунальнай маёмасці ва ўласнасць ГВА "Веста" зрабіць грашовы налік на намесніка старшыні Барысаўскага гарвыканкама Г.Кучук у размеры трох месячных акладаў (14460 руб.).

Скажыце, калі ласка, што пасля такога рашэння не зразумелым можа быць гарсавету? Але не. 17 снежня 1992 года сесія Барысаўскага гарсавета пры разглядзе адкрытага ліста групы дэпутатаў гарадскога Савета да старшыні С.Шыдлоўскага прымае рашэнне: "Лічыць, што факты, выкладзеныя ў лісце групы дэпутатаў у адрас старшыні гарадскога Савета народных дэпутатаў і выканкама, не адпавядаюць рэчаіснасці і не з'яўляюцца асновай для патрабавання адстаўкі старшыні гарадскога Савета народных дэпутатаў Шыдлоўскага С."

Я разумею, што не ва ўсім маюць рацыю дэпутаты, звярнуўшыся з адкрытым лістом. Але так катэгарычна і адназначна гаварыць пасля рашэння вышэйшага кантрольнага органа рэспублікі, што факты не адпавядаюць рэчаіснасці, — гэта проста цынізм і непавага да сябе і органа, у якім працуеш.

**— А як адрэагавала сесія на прапанову групы дэпутатаў спыніць выдзяленне зямельных участкаў пад будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў гараджанам, якія маюць дастатковую жылую плошчу, да таго часу, пакуль не будуць забяспечаны ўсе тыя, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў?**

— Прапанова была адхілена большасцю галасоў!

**— Іван Іосіфавіч, а ці адбыліся хоць якія-небудзь зрухі ў вырашэнні праблемы жыхароў таго барака, аб якіх ішла размова падчас сустрэч С.Шушкевіча ў Барысаве?**

— Што датычыць жыхароў барака па вуліцы Герцэна, 2а, то я лепш працытую іх лісты, накіраваныя зноў Старшыні Вярхоўнага Савета. Вось яны:

"Надеемся, что условия нашей жизни Вы помните после посещения нашего барака. На сегодняшний день никаких изменений не произошло. Мы надеялись, что на городской сессии будет решаться наш жилищный вопрос. Однако председатель горисполкома С.Шидловский и заместитель С.Трусов поставили вопрос так, что наш барак не включен в число ветхих домов, мы не включены в список жителей города, которые должны быть переселены до 2000 года.

Значит, подтверждаются слова Трусова: "Будете жаловаться, сгниете в этом бараке".

Мы не думали писать это письмо, но, узнав о том, что отдельные люди в течение 2-х лет без всяких льгот получили государственные квартиры в г.Борисове, такие, как Е.Браво — заведующая отделом общественно-политической жизни редакции местной газеты "Адзінства", Алпатов А. — редактор газеты "Адзінства" (не стоял в очереди вообще, а получил 3-комнатную квартиру, хотя имеет свой дом), Черпакова, Закревский — зять С.Шидловского и др., нас возмущает лицемерие Шидловского и Трусова.

Люди простые получают квартиры в течение 10—15 лет, а отдельные, нужные для них, могут получить за 1 год. Одна из них — Е.Браво — оскорбляет вас и депутатов, которые хотят помочь нам. Этим самым старается отработать квартиру.

Просим Вас восстановить справедливость, по возможности, пришлите комиссию по проверке распределения жилья, и привлечь к ответственности лиц, раздающих государственные квартиры. С уважением семья Бунак."

"К Вам обращаются жители г.Борисова, проживающие по ул. Герцена, барак N 2а, семья Лариных Н.И., И.С, В.С. и наши дети. Надеемся, что условия нашего барака надолго запечатлелись у Вас в памяти. Тем более, Вы заходили к нам в квартиру, если можно так назвать нашу комнатушку, в которой мы живем 6 человек, двое из них инвалиды первой группы. Мы надеялись на Вас, но наши надежды не оправдались, все осталось по-прежнему. Мы узнали из газеты, что наш барак до 2000 года не числится по благоустройству, хотя нам приносили проект о переустройстве нашего барака.

Нам провели отопительную систему, угрохали столько денег, но не подключили к нашему бараку. Вот теперь подумайте, как нам жить. В комнате у меня сыро, холодно, стены рушатся, окна гнилые, штукатурка со стен и потолка сыплется, а в некоторых местах видим крышу. Печкам нашим по 40 лет, сколько ни топи, никакого тепла, греем небо, а топливо в наше время трудно достать.

А у меня дети и мать-инвалид, и сынишка тоже инвалид первой группы, им нужно тепло и уют. Я стою на льготной очереди на квартиру. Но, увы, вряд ли я получу, если Вы не установите порядок.

Жилуправление предлагало мне трехкомнатную квартиру, но не благоустроенную, со всеми удобствами, как утверждает председатель исполкома Шидловский, а в доме после капитального ремонта по ул. Орджоникидзе, д. 22а, кв. 7. Без газа, с маленькими комнатами, всего жилплощадь 44,5 кв. м. По закону не подходящую для моей семьи. В связи с инвалидностью мне нужна минимум четырехкомнатная квартира.

А работники жилуправления предложили:"Бери свой керогаз и иди туда". Поэтому я и отказалась переезжать в неблагоустроенную квартиру, не устраивающую мою семью. Ларина."

**— Вельмі сумна, але апошняе пытанне напрошваецца само па сабе. Няўжо ў Барысаве для простых людзей, выбаршчыкаў, усё застанецца па-старому?**

— На жаль, сесія Барысаўскага Савета, на якой я прысутнічаў, настрой і практычныя справы дэпутатаў гарсавета з ліку кіруючых работнікаў розных узроўняў гаворыць самі за сябе. Людзі з "учарашняй" ментальнасцю проста не здольны весці справы ў рэчышчы перамен і ўпарта супраціўляюцца любой спробе пазбавіць іх неабмежаванай улады. Вось адкуль хваравітая рэакцыя на любую крытыку, агрэсіўны тон і выпрабаваная яшчэ ў застойны час кругавая абарона. У ход ідуць, як бачыце, любыя прыёмы. Вось бы такую энергію і "прынцыповасць" ды накіраваць не на "выбіванне кватэр сваім зяцям" і дапамогу ў "прыхватызацыі" магазінаў і іншых аб'ектаў горада "сваімі людзьмі", а на карысць тых, хто дзесяцігоддзямі пакутуе ў бараках. Аднак мы чуем толькі пустыя і гучныя словы аб сацыяльнай справядлівасці, аб абароне інтарэсаў простых людзей, выбаршчыкаў. У той жа час таварышы пасьпяхова вырашаюць свае асабістыя пытанні, пертварваючыся ў тых самых дваран-рэвалюцыянераў, якія, паводле сумнага заключэння іх правадыра, "былі страшэнна далёкія ад народа". Так што, калі гэты жыццёвы і кіруючы стыль будзе працягвацца, то цяжка чакаць у Барысаве якіх-небудзь перамен. Ва ўсялякім разе да новых выбараў...

*Можам, калі захочам!*



## Не горш заморскага

Не горш за японскае футра "пад пясца", выпуск якога асвоілі ў Жлобіне. Як сцвярджаюць спецыялісты, навінку беларускіх майстроў не адрозніш ад імпартнай сыравіны, якую да нядаўняга часу выкарыстоўвалі для пашыву верхняга адзення.

❑ Адну з новых мадэлей дамскіх футраў дэманструе Ірына ХАМКО.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, Белінфарм.

*Факт*

## Вы пострадали? Поможем

**Специальным распоряжением правительства оказана материальная помощь ряду граждан, пострадавших от катастрофы на Чернобыльской АЭС.**

В списке самые различные суммы. Например, вдове участника ликвидации последствий чернобыльской катастрофы Е.Савонь из г.Дятлово выделено 20 тысяч рублей, Л.Лукашенко, отселенному из зоны радиоактивного загрязнения в г.п.Кировск, — 30 тысяч, а М.Михаленко, прибывшему оттуда же в г.Минск, — 50 тысяч рублей.

Федор ДОЗОРОВ.

*Криминальная хроника*

## Контрабанда

В 5 часов во время таможенного досмотра пассажирского поезда Москва—Каунас (на участке дороги Молодечно—Гудогай) два белорусских таможенника обнаружили у 4 жителей Литвы контрабандные сигареты на 9 млн. рублей. Возникла драка. При невыясненных обстоятельствах из тамбура движущегося поезда выпал инспектор таможенной службы. Его труп обнаружили в 5 км от литовской станции Гудогай.

## Кражи

В деревне Воробьевичи Слонимского района совершена кража из магазина 234 бутылок спирта "Роял", 29 бутылок ликера "Шерри", 290 пачек молотого кофе. Ворюга с товаром на полмиллиона рублей растворился в ночи.

***

В Витебске на ВПО "Доломит" неизвестные разукомплектовали кран — сняли 150 м кабеля из цветного металла на 139 тыс. рублей. Любителей "высоты" нашли быстро — рабочего МП "Поиск" и ученика 10-го класса одной из городских вечерних школ. Похищенное изъято.

## Грабеж

В Минске в квартиру директора торгово-коммерческой фирмы под предлогом написать записку зашли двое кавказцев. Находившегося дома ученика 4-го класса заперли в ванной, а богатого родителя "раскулачили" на 2900 долларов США, забрав также телефакс, видеомагнитофон и другие дорогие вещи.

Юрий СОКОЛ.

*Улыбнемся с художником*




Рисунок Олега ПОПОВА.

